Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 15 555.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 236-24-41

# НАВІНЫ



Серада, 4 сакавіка 1998 г. № 21 Кошт свабодны

**СВАБОДА**

Забаронена 24 лістапада 1997 г.

## Еўрасаюз заклікае праявіць міласэрнасць

**Вялікабрытанія, якая цяпер старшынствуе ў Еўрапейскім Саюзе, ад імя ЕС выказала сур'ёзную заклапочанасць у сувязі з вынесеным Вадзіму Лабковічу і Аляксею Шыдлоўскаму прыгаворам.**

Еўрапейскі Саюз лічыць, што ўтрыманне пад вартай да суда, узмоцнены канвой падчас суда, а таксама суровы прысуд не адпавядаюць характару і цяжкасці ўчыненага дзеяння. ЕС заклікае беларускія ўлады праявіць міласэрнасць да маладых людзей, якія ўжо правялі шэсць месяцаў за кратамі ў чаканні суда.

Да гэтай заявы Вялікабрытаніі далучыліся таксама асацыяваныя члены Еўрапейскага Саюза ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе, а таксама Ісландыя і Нарвегія, якія не ўваходзяць у ЕС, але з'яўляюцца членамі іншых еўрапейскіх структураў.

## Беларусь парушае прынцыпы правасуддзя

**Міжнародная Хельсінкская федэрацыя (МХФ) выступіла з заявай, у якой заклікала беларускія ўлады перагледзець несправядлівы прыгавор, вынесены сябрам Маладога Фронту В.Лабковічу і А.Шыдлоўскаму.**

*«Шматлікія наглядальнікі адзначаюць,* — гаворыцца ў заяве, — *што гэта быў «паказальны судовы працэс», у часе якога суддзя Уладзімір Лаўроў не браў пад увагу аргументы абароны і абыходзіўся з абвінавачанымі як з небяспечнымі злачынцамі». «Доўгае папярэдняе зняволенне з утрыманнем у жудасных умовах у СІЗО,* — канстатуецца ў заяве, — *адбілася на здароўі абвінавачаных. Нішто не можа апраўдаць такое доўгае папярэдняе зняволенне і такі суровы прысуд».*

Абвінавачаныя маюць намер падаць апеляцыю ў Вярхоўны суд Беларусі, аднак МХФ мяркуе, што пры сённяшніх палітычных умовах Вярхоўны суд пакіне прыгавор у сіле. *«Міжнародная Хельсінкская федэрацыя па правах чалавека лічыць гэты судовы працэс грубым парушэннем усіх прынцыпаў правасуддзя, пад якімі Беларусь падпісалася ў якасці члена АБСЕ і ААН,* — гаворыцца ў заяве. — *МХФ заклікае ўрад Беларусі, пракуратуру і іншыя афіцыйныя органы, якія маюць дачыненне да справы, запатрабаваць паўторнага судовага разбіральніцтва і забяспечыць справядлівы разгляд справы».*

*БелаПАН*

## Справа Кабанчука перададзеная ў суд

**Больш чатырох з паловай месяцаў знаходзіцца ў мінскім СІЗО на Валадарцы 23-гадовы актывіст Маладога Фронту Вадзім Кабанчук.**

Следчы пракуратуры Маскоўскага раёна г.Мінск Юрый Шпак, які вядзе справу Кабанчука, сцвярджае, што Вадзім аказваў актыўнае супраціўленне работнікам міліцыі падчас леташніх веснавых акцыяў апазіцыі і за гэта яму інкрымінуюць артыкул 187 Крымінальнага кодэкса (да 5 гадоў пазбаўлення волі) і 186 -ты артыкул (актыўны ўдзел у несанкцыяніраваных мерапрыемствах).

Адвакат Кабанчука Таццяна Станкевіч (якая, дарэчы, абараняла палітзняволенага Аляксея Шыдлоўскага) лічыць, што абвінавачванні супраць Кабанчука не зусім слушныя. На думку адваката, Вадзім меў падставы аказваць супраціўленне міліцыянтам. Таццяна Станкевіч сказала, што на апраўдальны прыгавор у гэтай справе разлічваць не выпадае, і таму яна прыкладзе ўсе намаганні, каб суд вынес найбольш лёгкае пакаранне Вадзіму.

Адвакат ужо двойчы падавала ў пракуратуру хадайніцтвы аб змяненні свайму падабароннаму меры стрымання на падпіску аб нявыездзе. Следчы Шпак, аднак, лічыць, што выпускнік Беларускай політэхнічнай акадэміі Вадзім Кабанчук можа схавацца ад следства і таму нельга выпускаць яго з турмы на волю. Маці Вадзіма, якая жыве ў Бабруйску, два разы сустракалася з сынам у турме. Як нам стала вядома, у зняволенні ў хлопца рэзка абвастрыліся хваробы нырак і сэрца.

У канцы мінулага тыдня крымінальная справа Вадзіма Кабанчука была перададзеная з пракуратуры ў Мінскі гарадскі суд. Адвакат Станкевіч лічыць, што працэс пачнецца ў канцы сакавіка. Пасля суровага прысуду, вынесенага Аляксею Шыдлоўскаму і Вадзіму Лабковічу, многія назіральнікі лічаць, што Кабанчук будзе пакараны не менш жорстка.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**





*Прэзідэнта Лукашэнку чакаюць у Гродне, Тэгеране і Дамаску.*

# Курс – на Тэгеран

**Паседжанне Вышэйшага савета Саюза Беларусі і Расіі адбудзецца ў Маскве 18 сакавіка, а 3 красавіка прэзідэнты Аляксандр Лукашэнка і Барыс Ельцын прымуць удзел у паседжанні Вышэйшага савета ў Мінску.**

Пра гэта паведаміў журналістам намеснік кіраўніка адміністрацыі прэзідэнта Беларусі Іван Пашкевіч. Па яго словах, 2 красавіка ў Мінску таксама пройдзе паседжанне прэзідэнтаў і кіраўнікоў «чацвёркі» — Беларусі, Казахстана, Кіргізіі і Расіі.

Тым часам, 6 сакавіка Аляксандр Лукашэнка прыме ў сваёй рэзідэнцыі прадстаўнікоў жаночых грамадскіх арганізацыяў з нагоды 8 сакавіка. 7 сакавіка прэзідэнт Беларусі вылеціць з афіцыйным візітам у Іран і Сірыю. Паездка працягнецца да 12 сакавіка. Пашкевіч сказаў, што падчас візіту ў Іран будзе падпісана некалькі пагадненняў, якія тычацца супрацоўніцтва ў сельскагаспадарчай галіне і гандлі. Па яго словах, беларускі бок падчас гэтага візіту не плануе падпісваць з Тэгеранам ніякага пагаднення аб ваенна-тэхнічным супрацоўніцтве.

Пашкевіч паведаміў, што на працягу сакавіка-красавіка «прапрацоўваюцца» таксама візіты прэзідэнта Беларусі ў шэраг расійскіх рэгіёнаў: Пскоўскую і Мурманскую вобласці, Рэспубліку Комі. У бліжэйшы час у Мінску адбудзецца сустрэча А.Лукашэнкі з губернатарам Саратаўскай вобласці Дзмітрыем Аяцкавым.

*Інтэрфакс*

# Курапаты: мінула дзесяць гадоў

**Сёлета спаўняецца дзесяць гадоў, як беларускае грамадства даведалася пра таямніцу Курапацкага лесу пад Мінскам, дзе пахаваныя тысячы бязвінна забітых людзей.**

За мінулыя дзесяць гадоў пракуратура не аднойчы праводзіла следства, каб высветліць імёны забойцаў, і кожны раз адказ быў адзіны: у Курапатах у 30-я гады НКВДзісты расстрэльвалі ахвяраў сталінскіх рэпрэсіяў. Але дагэтуль пэўная частка людзей, у асноўным, сталага ўзросту, упарта настойвае, што ў Курапатах расстрэльвалі людзей гітлераўцы.

Прыхільнікі гэтай версіі стварылі так званую «грамадскую камісію», якая вельмі актыўна атакавала ўсе дзяржаўныя інстанцыі з патрабаваннямі правесці новае следства, каб «устанавіць гістарычную праўду». Адразу знайшліся і сведкі фашысцкіх зверстваў. Дзіўна толькі, чаму гэтыя людзі маўчалі больш за пяцьдзесят гадоў, утойваючы падрабязнасці расстрэлаў ад спецыяльных камісіяў, што расследавалі злачынствы нацыстаў у Беларусі.

Летась «грамадская камісія» дамаглася, каб Ваенная пракуратура Беларусі зноў распачала следства па Курапацкай справе.

У кастрычніку 1997 г. Ваенная пракуратура правяла раскопкі трох брацкіх магілаў, пасля чаго прэс-цэнтр Пракуратуры Беларусі паведаміў, нібыта знайшліся доказы таго, што шэраг пахаванняў у Курапатах адносіцца да часоў Другой сусветнай вайны, і такім чынам усе высновы папярэдніх следстваў былі памылковымі.



*Алег Іоў.*

**Сітуацыю, якая сёння склалася вакол Курапатаў, каментуе Алег ІОЎ — археолаг, які ўсе дзесяць гадоў займаецца праблемай Курапатаў, аўтар кнігі «Курапаты». 40-гадовы Алег Іоў кіраваў групай археолагаў, якія ў мінулую восень праводзілі раскопкі ў Курапатах па просьбе Ваеннай пракуратуры.**

— Мне цяжка зразумець, што мела на ўвазе Пракуратура, гаворачы пра рэчавыя доказы, *«якія даюць падставу меркаваць, што шэраг пахаванняў адносіцца да часоў Другой сусветнай вайны»*. Трэба мець вельмі багатую фантазію, каб убачыць сярод соцень рэчаў, знойдзеных у 1997 годзе, такія «доказы». Відаць, таму іх і не змаглі назваць. На вялікі жаль, наша група звязаная падпіскай аб нераскрыцці таямніцы следства, таму я не маю права распавядаць пра нашыя знаходкі.

Але адна «таямніца» следства ўжо раскрытая начальнікам аддзела Пракуратуры РБ А.Доўбышам. Выступаючы па Беларускім тэлебачанні, ён заявіў, што Зянон Пазьняк ілгаў, гаворачы пра 30 тысячаў пахаваных у Курапатах. Заява Доўбыша базуецца на той падставе, што з 8 месцаў, якія лічыліся пахаваннямі, толькі тры аказаліся сапраўднымі магіламі. Але гэта толькі частка праўды. Калі б спадар Доўбыш быў больш аб'ектыўны, яму трэба было сказаць, колькі ахвяраў знайшлі ў тых трох магілах і як разважаліся «пустыя пахаванні» адносна асноўнай масы курапацкіх магілаў. Я ўпэўнены, што тады высновы пракурора былі б далёка не такімі пераканаўчымі.

*(Працяг на стар. 2)*

## Лукашэнка прыедзе з медалямі

**Два дні (4 і 5 сакавіка) прэзідэнт Лукашэнка будзе знаходзіцца ў Гродне.**

У аблвыканкаме ён уручыць ордэны і медалі каля 30 узнагароджаным жыхарам вобласці. Затым ён правядзе сустрэчы ў каталіцкай і праваслаўнай епархіях — з кардыналам Свёнтакам (у Гродзенскай духоўнай семінарыі) і мітрапалітам Філарэтам (у жаночым манастыры). У чацвер прэзідэнт выступіць на рэспубліканскай аграпрамысловай нарадзе, якая будзе праходзіць у Гродзенскім драмтэатры.

**С.А.**

## Трагедыя на Дзікім возеры

*Усяго за зіму ў Беларусі патанула 30 чалавек, у тым ліку 12 дзяцей*

На Дзікім возеры ў Капыльскім раёне працягваецца пошук патанулых у суботу рыбакоў. Як паведамілі нам у штабе грамадзянскай абароны Мінскай вобласці, пакуль адшукалі толькі аднаго тапельца, ім аказаўся жыхар Мінска. Выратавальнікі сцвярджаюць, што яшчэ два чалавекі пайшлі пад лёд. Паводле папярэдніх дадзеных, гэта бацька і сын, жыхары Салігорска. Мяркуюць, што тапельцам належалі аўтамабілі «Форд» і «Аўдзі», якія засталіся на беразе без гаспадароў. У рэспубліканскім таварыстве выратавання на водах лічаць, што патанула на Дзікім возеры каля пяці чалавек.

Трагедыя здарылася вечарам у мінулую суботу. На вадаёме плошчай каля 60 гектараў пачаў калоцца лёд, усеяны рыбакамі. Адчуўшы небяспеку, аматары рыбнай лоўлі пачалі хуценька выбірацца на бераг, але не ўсім гэта ўдалося... Выратавальнікі з Салігорска з'явіліся толькі праз гадзіну. З-за неспрыяльных умоваў вадалазы для пошуку тапельцаў не выкарыстоўваюцца.

У нядзелю раніцай возера зноў акупавалі рыбакі, якіх давялося «здымаць» з вадаёма з дапамогай верталёта.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

## Зноў ураган

**У мінулыя выхадныя ўраганны вецер са снегам прайшоў паласой па Нясвіжскім раёне.**

Па звестках грамадзянскай абароны, пацярпелі пераважна гаспадарчыя пабудовы. У вёсцы Салтанаўшчына разбурана сенасховішча, каля 600 лістоў шыферу знесла з трох будынкаў птушніка ў вёсцы Сноў, пашкоджаныя франтоны на будынках. Страты нанеслі таксама гаспадарчыя пабудовы ў вёсках Андрушын і Лань. Нанесены эканамічны ўрон пакуль падлічваецца.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

# Курапаты: мінула дзесяць гадоў

*(Пачатак на стар. 1)*

Калі ў 1988 годзе ўпершыню праводзілася следства, мы адразу пачалі высвятляць, колькі ўсяго чалавек пахавана ў Курапатах. Зразумела, што перакапаць усю тэрыторыю Курапацкага лесу ў пошуках парэшткаў людзей немагчыма. У такіх выпадках звычайна археолагі падлічваюць колькасць магілаў, а потым раскопваюць некаторыя з іх, каб ведаць сярэднюю колькасць пахаваных у адной магіле. І потым, ведаючы гэтыя лічбы, можна прыкладна вызначыць агульную колькасць пахаваных.

У 1988 годзе падчас раскопак мы адкрылі 6 магілаў, у якіх былі пахаваныя не менш за 356 расстраляных. У магілах мы знайшлі 177 гільзаў і 28 куляў. Усе — савецкай вытворчасці, ніводнай нямецкай. У трох магілах асабістыя рэчы пахаваных (галёшы, зубныя шчоткі, манеты, кубкі) — толькі савецкай вытворчасці, у іншых магілах — замежнай, але ў асноўным польскай. Так што і тут версія пра фашысцкі след у Курапатах не спрацоўвае.

Цяжэй было ўстанавіць, колькі ў Курапатах брацкіх магілаў. Там жа няма ні крыжоў, нічога. Але вядома, што ў месцах пахавання людзей зямля асядае. Такіх месцаў у Курапацкім лесе на той момант налічылі 510. Дарэчы, сёння ўжо вядомыя болей за 580 упадзінаў. Канешне, не ва ўсіх гэтых упадзінах ёсць чалавечыя парэшткі, некаторыя з іх маглі ўтварыцца ў выніку розных прыродных з'яваў. Але трэба ўлічваць таксама, што калі па той мясцовасці пракладвалі газаправод, не меней за 20-30 магілаў магло быць знішчана.

Такім чынам, колькасць загінуўшых была ацэненая ў 30 тысячаў. Але нават калі меркаваць, што ў Курапатах пахавана на 5 ці 10 тысячаў чалавек болей ці меней — хіба гэта мае прынцыповае значэнне? Галоўнае — хто расстрэльваў і каго расстрэльвалі. А на гэты конт, я лічу, больш не можа быць ніякіх дыскусіяў: **усё сведчыць пра тое, што ў Курапатах ляжаць менавіта ахвяры сталінскага рэжыму**, — падкрэсліў археолаг Алег Іоў.

А пакуль што следства працягваецца. Следчы Ваеннай пракуратуры Віктар Сомаў адмаўляецца ад любых каментароў да таго часу, пакуль не закрые справу. Тым часам у дзяржаўным друку з'яўляюцца новыя публікацыі, прысвечаныя курапацкай праблеме. Аўтары і героі гэтых публікацыяў называюць усе ранейшыя высновы, што зрабіла пракуратура па гэтай справе, памылковымі, некампетэнтнымі і нават «фальшывымі». Такім чынам «аматары гістарычнай праўды» імкнуцца апраўдаць куміраў сваёй маладосці, а таксама адпомсціць свайму сённяшняму «ворагу нумар адзін» — Зянону Пазьняку, які першым дакапаўся да праўды.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

ВАЯЖ

# Інспектары з Мінска праверылі Садама

**Беларуская дэлегацыя ездзіла ў Ірак не дзеля таго, каб выконваць ролю жывога шчыта супраць амерыканскіх бамбардзіровак, — паведамілі ўчора журналістам удзельнікі вояжу ў Багдад.**

Як паведамлялася, напрыканцы лютага дэлегацыя прыхільнікаў беларуска-іракскай дружбы вылецела ў Багдад. У гэтую групу ўваходзілі старшыня ЛДПБ С.Гайдукевіч, палатачныя дэпутаты-камуністы І.Катляроў і В.Драко, вядомы сваімі прапагандысцкімі работамі кінарэжысёр Ю.Азаронак і іншыя аматары славяна-арабскай інтэграцыі. Па словах Гайдукевіча, у Багдадзе беларуская міратворцы былі цёпла прынятыя іракскім віцэ-прэзідэнтам, міністрамі абароны і аховы здароўя, а таксама кіраўніцтвам сацыялістычнай партыі арабскага адраджэння (БААС). Беларускія сябры Ірака наведалі некалькі палацаў Садама і, як сцвярджае Ігар Катляроў, ніякай хімічнай ці бактэрыялагічнай зброі там яны не знайшлі. Затое беларускія палітыкі нібыта бачылі іракскіх дзяцей, якія «штодзённа паміраюць ад голаду і недахопу медыкаментаў у выніку



*Ігар Катляроў асабіста праверыў: у прэзідэнцкіх палацах Хусейна ніякай хімічнай зброі няма.*

ўведзенага ААН эканамічнага эмбарга». Цікава, што, па словах Гайдукевіча, урад Ірака бясплатна выдзяляе штомесяц на аднаго чалавека 20 кг масла, 40 кг мукі, 8 кг цукру і 12 літраў сланечнікавага алею. Здаецца, гэта не самы кепскі рацыён: не так даўно ў Беларусі «навукова разлічаная норма» па талонах складала 1 кг мукі, кіло цукру, 200 г масла і 100 г алею на чалавека ў месяц.

Актывіста беларуска-іракскай дружбы Ігара Катлярова асабліва ўразіла якасць іракскіх дарог і танны высокаякасны бензін — «330 літраў на адзін долар». Ад імя КПБ, членам якой Катляроў з'яўляецца, ён падпісаў пагадненне аб супрацоўніцтве з лідэрамі кіруючай партыі БААС і запрасіў іракскую партыйную дэлегацыю 14 сакавіка ў Мінск — на святкаванне 100-гадовага юбілею І з'езда РСДРП.

Рэжысёр Азаронак, як высветлілася, займаўся ў Іраку «творчай работай» і зняў 3,5-гадзінны фільм аб геачнай барацьбе іракскага народа супраць амерыканскіх імперыялістаў. Азаронка асабліва ўразіў выгляд бомбасховішча, куды ў 1991 годзе трапіла амерыканская ракета і на сценах якога «засталіся размазаныя дзіцячыя ручкі і вочкі». Так што пасля сумнавядомага азаронкаўскага фільма «Дзеці хлусні» працягваецца сапраўдны серыял «чарнухі».

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## *Великий контрабандный путь*

# Как союзник

Российско-белорусский таможенный союз, заключенный три года назад, открыл Великий контрабандный путь. Потери бюджета России с тех пор исчисляются, по самым скромным оценкам, в сотнях миллионов долларов. Но, несмотря на целый ряд скандалов, связанных с тем, что на территории Беларуси по льготным расценкам растаможиваются огромные партии самых разнообразных товаров, которые затем беспрепятственно попадают на необъятный российский рынок, эта схема продолжает успешно функционировать по сей день.

### «Черная дыра» Махмуда Эсамбаева

**Ответить на многочисленные вопросы, возникающие в связи с этой ситуацией, может только человек, знающий ее изнутри. Мне удалось разыскать такого свидетеля. Это белорусский бизнесмен, президент некогда крупнейшего в стране холдинга «Пуше» Александр ПУПЕЙКО, который в настоящее время находится в Польше, где ожидает экстрадиционного суда (его выдачи добиваются белорусские власти).**

— Я был одним из разработчиков бизнеса по торговле таможенными льготами, — рассказывает А.Пупейко. — Суть его заключается в одном: на основе нормативного документа исполнительной власти (в Беларуси это, как правило, указ президента) под благовидным предлогом формируется льгота, затем отдаются соответствующие указания таможенным органам, минфину, налоговой инспекции — и работа пошла. Назначенный оператор начинает предлагать свои услуги по растаможке нуждающимся компаниям за небольшую часть от суммы платежей, полагающихся по закону. Страдает в этой ситуации только государство, в данном случае Россия, поскольку именно туда направлялась основная масса льготно растаможенных товаров. Всем остальным это выгодно. Бизнесмены экономят, как минимум, 70% денег, которые должны были оставить на таможне. Торговцы льготами тоже не в накладе: они получают до 30%. Эти деньги частично расходуются на содержание аппарата: все-таки объем рутинной работы достаточно велик. Львиная доля делится между торговцами льготами и теми, кто эти льготы предоставил, то есть высшими государственными чиновниками. Так, используя возможности, предоставляемые таможенным союзом, пробиваются дыры в бюджете России, через которые деньги утекают в Беларусь.

Первый опыт, правда, оказался неудачным. Летом 1995 года в Беларуси возник Идигов Муса Магомедович, президент и владелец компании «Идигов продукт». Он был заинтересован в использовании интеллектуального потенциала «Пуше» для создания таможенной «дыры» и, в частности, чтобы сформулировать свои мысли и предать им хорошее социальное звучание. Однако это были отнюдь не его собственные идеи. Как я узнал позднее, с Идиговым работали люди из окружения Руцкого, которые и были основными потребителями денег, заработанных благодаря вышеупомянутой «дыре». Вероятно, в качестве благодарности после избрания Руцкого на пост губернатора Курской области Идигов был назначен его заместителем. Впрочем, Мусу Магомедовича довольно быстро убрали с этой должности, но какое-то время он поруководил курской промышленностью.

Но вернемся к белорусским делам. В обмен на сотрудничество с ним Идигов обещал немедленно снять претензии со стороны властей к «Пуше», а также предложил нашему холдингу стать потребителем будущей льготы. И действительно, сразу же после нашего разговора прекратился процесс выселения «Пуше» из арендуемых нами помещений. Когда я согласился на роль консультанта этой затеи, то познакомился с заместителем управляющего делами президента Беларуси Георгием Кашканом, который, как я понял, был ответственным за проведение



*А.Лукашенко.*



*И.Титенков.*

этой операции со стороны властных структур.

Когда «дыра» заработала, желающие воспользоваться льготами стекались в хореографическое училище, где располагался Фонд поддержки культуры Махмуда Эсамбаева, под крышей которого и работал Идигов. Был там и какой-то зицпредседатель, но реальным руководителем являлся именно Муса Магомедович. Нанесла эта «дыра» ущерб бюджету России примерно 150 миллионов долларов. Сам фонд заработал около 30 миллионов, после чего Идигов просто кинул своих «партнеров» из белорусского руководства, отказавшись отстегивать им полагающуюся долю.

Кашкан оказался в нелепой ситуации. С одной стороны, на него давило руководство, которое, зная, что через фонд проходят огромные товаропотоки, требовало денег. С другой — Идигов в ответ на требования поделиться заявил: «Счас приедет компания чеченов, и они с тобой поделятся». Я не знаю, всерьез или нет Муса Магомедович это говорил, но Кашкан несколько недель страшно паниковал по этому поводу. Надо сказать, что в принципе не безосновательно. Торговля льготами — бизнес крайне опасный. В свое время газеты писали о покушении на бывшего главу российского Национального фонда спорта Федорова. Но, по-моему, нигде не звучало, что на него покушались еще трижды, когда НФС четко функционировал. В то время у Федорова была такая охрана, на которую могла равняться служба безопасности президента России.

### «Халява» в законе

Средства давления у белорусских властей на Идигова были весьма ограничены, поскольку изначально это была противоправная операция. И, в первую очередь, со стороны Лукашенко, который в ответ на формальное обращение Эсамбаева подписал соответствующие требования на имя Чигиря (тогдашний премьер-министр) и Титенкова (управляющий делами президента Беларуси). В итоге получить что-либо с Идигова так и не удалось.

**— И тогда появилась «Торгэкспо», которая уже полностью контролировалась белорусскими властями?**

— Совершенно верно. У руководства страны желание заработать после неудачи с Идиговым отнюдь не иссякло. И, хотя определенные меры предосторожности были приняты первоначально, к реализации программы вновь привлекли постороннего человека, некоего Аркадия Втица, в свое время имевшего отношение к функционированию питерского отделения Национального фонда спорта. Была подготовлена целая куча материалов с идеологической подкладкой. Создание новой «дыры» обосновывалось необходимостью помощи военным и прочим малообеспеченным слоям населения. Но в самый последний момент решили, что надо жить проще. В результате появился известный указ президента Беларуси о предоставлении льгот государственному предприятию «Торгэкспо» в целях обеспечения населения товарами народного потребления накануне Нового года.

Довольно быстро Втиц увяз в «левых» делах. Но так как он являлся фигурой, несоизмеримой с Идиговым, его немедленно выперли. Втиц, однако, продолжал хулиганить. Он изготовил несколько поддельных печатей «Торгэкспо» и продолжал растаможивать небольшие партии товара, вроде вагона водки.

Руководить всем процессом в «Торгэкспо» поставили Дмитрия Масловского. Насколько мне известно, он не занимал никакой формальной должности, но являлся главным внешним оператором по реализации этой льготы. Со стороны властных структур Масловского очень жестко контролировал Кашкан. И гигантские товарные потоки беспрепятственно потекли через Беларусь на необъятный российский рынок. Соответственно росли доходы тех, кто обеспечивал «зеленый коридор».

Этой ситуацией заинтересовались очень крупные фигуры в России. Они заметили резкий рост товаропотока из Беларуси, еще когда льготной растаможкой занимался Идигов. Он «засветился», когда в Москве в продаже появилась партия невероятно дешевых автомобилей «СААБ» и «Вольво». Понятно, что снизить их стоимость возможно главным образом за счет растаможки. Поэтому те, кто проследил путь автомобилей, легко вышли на эсамбаевский фонд. Но так как все это было организовано очень скандально, серьезные фигуры российского бизнеса на Идигова внимания не обратили.

А вот когда стабильно заработало на полную мощность «Торгэкспо», их отношение к происходящему изменилось. В конце декабря 1995 года на нейтральной территории, а именно в помещении «Пуше», собралась забавная компания. С одной стороны, это были Кашкан и Масловский, с другой — люди, которых представляли примерно следующим образом: «Он дружит с Пашей, а вот он — с Сашей, а вот он — с Олежкой» (имелись ввиду Бородин, Коржаков и Сосковец). Я, конечно, знаю фамилии своих гостей, но не собираюсь предавать их гласности, тем более, что в данной ситуации это абсолютно не принципиально. Привез их Володя Слуцкер, московский финансовый трейдер, совладелец нескольких банков. На встрече Кашкану и Масловскому, как представителям «Торгэкспо» было сказано примерно следующее: ребята, вы уже немножко поработали, вы уже в течение трех месяцев грабите Россию, пора делиться. То есть белорусам предложили отдавать долю от прибылей «Торгэкспо», в пользу высокопоставленных российских чиновников. Кашкан и Масловский объяснили, что хозяевами бизнеса являются, естественно, не они, и пообещали все передать на верх. Договорились до того, что все вопросы, связанные с дележкой денег, будут обсуждены на встрече в Москве в начале января 1996 года. Но и на ней белорусские представители не дали никакого определенного ответа.

Тем временем «халява» продолжалась, Россия по-прежнему пропускала грузы. Но эта ситуация уже начала нервировать вли-

# Чарнобыльскі «саркафаг» патрабуе тэрміновага рамонту

**Жалезабетонны «саркафаг», пад якім быў замураваны пасля аварыі чацвёрты рэактар Чарнобыльскай АЭС, знаходзіцца ў крытычным стане.**

Праведзеныя ў мінулым годзе вымярэнні паказалі, што на станцыі пачалася ўцечка радыеактыўнасці, паведамляе *Financial Times*. Па ацэнках спецыялістаў, пад «саркафагам» знаходзіцца каля 34 тон радыеактыўнага пылу, які ў выпадку разбурэння ахоўных канструкцыяў можа разлецецца па тэрыторыі Украіны і Беларусі.

Як паведаміла ўкраінскае агенцтва навінаў, у падмурку збудавання з'явіліся шчыліны, і ўзнікла небяспека абвалу верхняга перакрыцця. На нядаўнім тэрміновым паседжанні Еўрапейскага банка рэканструкцыі і развіцця было прынятае рашэнне аб выдзяленні 760 мільёнаў долараў на правядзенне рамонтных работ, якія павінны пачацца ўжо ў красавіку гэтага года.

**Уладзімір АБАНІН**



*На здымку: «саркафаг» над чацвёртым блокам ЧАЭС.*

*Расія*

# Прызыўнікам гарантуюць парушэнне прысягі

**У Галавінскім муніцыпальным судзе Масквы пачаўся судовы працэс па справе Аляксандра Барадзіна, які адмовіўся ісці на ваенную службу па ідэйных перакананнях.**

А.Барадзін з'яўляецца членам Антымілітарысцкай радыкальнай асацыяцыі (АРА). У юрыдычнай практыцы Расіі, на думку многіх назіральнікаў, з'явілася небяспечная тэндэнцыя: супраць тых, хто адмаўляецца ад службы ў арміі па перакананнях, сталі ўзбуджаць крымінальныя справы. І гэта пры тым, што раней суды практычна заўсёды пацвярджалі канстытуцыйнае права грамадзянаў РФ на альтэрнатыўную грамадзянскую службу і адмянялі як незаконныя рашэнні прызыўных камісіяў аб прызыве «адмаўленцаў».

Калі кіравацца Канстытуцыяй РФ, дык абвінавачаны павінен быць апраўданы з-за адсутнасці складу злачынства. Прыкладам, Барадзін, які законным шляхам дамагаецца рэалізацыі свайго канстытуцыйнага права на адмову ад вайсковай службы і замену яе на альтэрнатыўную, не здзяйсняў злачынства, якое яму інкрымінуецца. Іншае пытанне, што на постсавецкай прасторы многія ўладныя інстанцыі пакуль яшчэ не навучыліся ўспрымаць Канстытуцыю як найвышэйшы закон, прычым закон непасрэднага дзеяння.

Прадстаўнікі ваенкамата, якія выступалі на судовым паседжанні ў якасці сведкаў, сцвярджаюць, што Барадзіну была афіцыйна гарантаваная магчымасць служыць у часцях, дзе «выключаецца нашэнне зброі ці абслугоўванне баявой тэхнікі». Тым не менш, і ў гэтых часцях ваеннаслужачы павінен праходзіць «курс маладога байца» і прымаць прысягу, дзе ёсць словы «клянуся са зброяй у руках», — гэта абавязкова для любой службы ва ўсіх родах войска.



*Расійскаму міністру абароны Ігару Сяргееву ёсць над чым падумаць.*

Сітуацыя не з'яўляецца паказальнай выключна для Расіі. Такім чынам, ваенкаматы і міністэрствы абароны загадваюць ваенным камісарам "гарантаваць" прызыўнікам магчымасць парушэння імі вайсковай прысягі падчас службы.

**Міхаіл ГРЫГОРЬЕЎ**

# грабит Россию

ятельных людей в Москве. И тогда мне позвонил Слуцкер и попросил обеспечить ему связь с Кашканом и Масловским. Что я и сделал, поэтому довольно подробно знаю детали тех переговоров. Белорусам дали два-три дня на то, чтобы они в добровольном порядке согласились производить отчисления. В противном случае лавочку было обещано прикрыть.

Но, как мне стало известно, белорусы делиться не захотели. И просто по-жлобски послали москвичей по известному адресу: дескать, мы тут все сделали, таможенный союз заключили, а кто-то там пытается примазаться.

После этого начались неприятности у «Торгэкспо»: проблемы на таможне и, как следствие, в отношениях с клиентами, публикации в прессе о, мягко говоря, сомнительной деятельности фирмы. Одновременно возникали препятствия с регистрацией автомобилей, растаможенных через «Торгэкспо». Это было своего рода предупреждение: одумайтесь, пока не поздно.

Но Минск тупо упорствовал в своем нежелании делиться. И на очередные предложения прийти к консенсусу фактически не отреагировал. Тогда Россия повела себя очень жестко и практически перекрыла основные каналы поступления товаров, растаможенных с помощью «Торгэкспо», на свой рынок. На очередной «дыре» был поставлен крест.

## Льготы Христа Спасителя

Но она была далеко не последней. К примеру, операцией, гораздо более подготовленной с точки зрения соблюдения законов, чем «Торгэкспо», было предоставление таможенных льгот департаменту внешнеэкономических связей Белорусского экзархата. У него было два управляющих: церковный — отец Федор (это классика!) и светский — Александр Грамотнев. Предполагалось, что департамент будет зарабатывать деньги для реализации «проекта века» — «младшего брата храма Христа Спасителя» высотой около 100 метров, на строительство которого планировалось израсходовать примерно 60 миллионов долларов. Но главным образом возводился храм персонального благополучия тех, кто получил доступ к новой «дырке».

Несколько операций департамент провел, пока вдруг те, кто предоставил ему льготу, не обнаружили, что им ничего не платят. Грамотнев оказался таким недалеким, что всерьез рассчитывал, будто все деньги с этих операций будут отправляться либо на церковные, либо на его личные нужды. Он мне лично давал два счета, на которые мой поставщик должен был перевести деньги: один из них — это счет экзархата, второй — личный счет Грамотнева в Канаде.

Когда Иван Титенков обнаружил, что, оказывается, ему-то ничего не перепадает, то все немедленно остановилось. После длительных разборок и попыток вытрясти деньги с департамента выяснилось, что он пустой, как барабан.

**— Руководство церкви знало, чем занимается вышеупомянутый департамент?**

— Конечно. Однажды меня пригласили на завтрак Митрополит Филарет и попросил возглавить сие богоугодное мероприятие. Я сказал, что это противоречит моим принципам (я хотел быть потребителем льготы, но не торговцем ею). Тогда спустя некоторое время церковники остановили свой выбор на Грамотневе.

Церковь, кстати, не одинока в зарабатывании «на хлеб» при помощи льгот, предоставленных государством. Например, крупнейшим поставщиком видеотехники является общество слепых. Общество глухих тоже занимается аудио- и видеоаппаратурой. И так далее.

**— Существуют ли документальные подтверждения того, о чем вы говорите?**

— Да, безусловно. В этой связи упомяну об одной истории, имевшей место незадолго до того, как накрылось «Торгэкспо».

Человек, назначенный оператором по обращению с таможенными льготами, попал в аварию. Он расценил происшедшее как попытку покушения. И тогда оператор кинул своих «благодетелей» на сумму порядка 14 миллионов долларов. Он просто перевел эти деньги на свой счет, а затем написал в девяти экземплярах подробное изложение обстоятельств торговли льготами, в том числе с указанием роли высших государственных чиновников, а также кому, куда и какие суммы направлялись в процессе дележа. И приложил подтверждающие его рассказ документы.

Когда к нему пришли с требованием вернуть 14 миллионов, он вручил посетителям один из экземпляров и сказал: «Если со мной, моей женой, моим сыном или моей собакой хоть что-нибудь случится, эта информация всплывет». Остальные копии спрятаны в Беларуси, России, Германии и других странах. Сейчас он спокойно живет в Минске, в прекрасном доме стоимостью около 2 миллионов долларов, и власти обеспечивают его безопасность, но из страны не выпускают.

Существуют два человека, которые владеют полной информацией о финансовых делах Лукашенко и его ближайшего окружения. Кое-что известно и мне, например, о части сумм, которые осели на личных счетах членов высшего руководства Беларуси, имя главного оператора, как он выполнял свои функции.

## Таможня по-прежнему даёт «добро»

Александр Пупейко покинул Беларусь в 1997 году и потому не в полной мере владеет последней информацией. Но мне удалось выяснить состояние дел на сегодняшний день.

Деятельность департамента внешнеэкономических связей Белорусского экзархата в части торговли таможенными льготами возобновлена. Российская таможня так и не сумела обнаружить эту «дыру» благодаря хитрой маскировке. Недостатком «Торгэкспо» было то, что в товарных документах в графе «таможенные платежи» стоял специальный шифр, свидетельствующий о льготной растаможке. Как следствие, любой российский таможенник сразу понимал, что речь идет де-факто о контрабандном товаре. В случае с департаментом все выглядит по-другому. Его представители расплачиваются с белорусскими таможенниками векселями, после чего получают документы на товар со стандартным шифром «оплачено». Но никаких денег церковники не платят. Таможенники передают векселя в минфин, который, по идее, должен предъявлять их к оплате, но вместо этого просто возвращает департаменту.

Работают и другие «дыры», вернее, «дырочки». Учтя предыдущий опыт, белорусская сторона отказалась от создания таких гигантских монстров, как «Торгэкспо». Теперь льготы предоставляются небольшим фирмам под конкретные операции. Зачастую после осуществления поставки такие конторы сразу прекращают свое существование.

Несколько изменилась номенклатура товаров, растаможиваемых льготным образом. Практически перестали поступать автомобили, которые невозможно поставить на учет в России, если таможенные платежи не поступили в российский бюджет. Зато на первый план вышли продукты питания. Один из последних скандалов, впрочем, не вышедший за стены властных кабинетов, связан с появлением в Москве огромной партии куриных яиц из Финляндии. Разумеется, очень дешевых и поступивших через Беларусь.

Наконец, в лучших традициях коммунистических времен, славных своими спецраспределителями для партбоссов, организована «дыра» для личных нужд высокопоставленных чиновников. В охраняемом правительственном поселке Дрозды работает магазин беспошлинной торговли. Причем там можно приобрести не только бутылку виски. Захотел обласканный президентом человек привезти автомобиль из-за границы — его поставляют в Дрозды на «таможенный» склад типа «Д». После чего без всяких необходимых по законодательству платежей машина поступает в распоряжение хозяина. Проблем с ее регистрацией в Беларуси не бывает.

Поле деятельности торговцев льготами весьма внушительно. Разница между ставками пошлин и акцизов в белорусском и российском законодательстве наблюдается по сотням наименований. В такой ситуации ловля крыс поштучно становится бессмысленным занятием.

Более или менее понятно и то, почему Россия не закрывает белорусскую контрабандную лавочку в принципе. Влиятельных людей в Москве гораздо больше волнуют собственные прибыли, нежели потери государственной казны. Поэтому претензии к белорусскому руководству, если и предъявляются, то только в части дележа доходов от торговли таможенными льготами.

Всех или почти всех, все или почти все устраивает. Поэтому Великий контрабандный путь будет жить.

**Александр СТАРИКЕВИЧ,**
*«Новые известия»*



*На снимке (из архива СВАБОДЫ): В апреле 1996 г. Москва опустила шлагбаум перед грузами «Торгэкспо». На железнодорожных станциях под Минском скопилось около 400 вагонов с водкой и спиртом, которые позже были переправлены в Россию мелкими партиями.*

## Новая хваля эпідэміі грыпу

**У сталіцы зноў зафіксаваны рост вострых рэспіраторных захворванняў і грыпу.**

Як паведаміў загадчык аддзялення асабліва небяспечных інфекцыяў Мінскага гарадскога цэнтра гігіены і эпідэміялогіі Аляксандр Маштакоў, эпідэмія грыпу пайшла на спад пасля 18 лютага, аднак цяпер назіраецца новы ўсплеск. У канцы лютага— пачатку сакавіка ўзровень эпідэмічнага парога быў перавышаны амаль у 5 разоў, а колькасць хворых склала больш за 6 тыс. чалавек.

На думку А.Маштакова, ёсць падставы гаварыць аб другой эпідэмічнай хвалі. Гэта звычайная сітуацыя: як правіла, нязначны рост захворванняў заўсёды назіраецца ў «хвасце» эпідэміі, калі далучаецца другі ўзбуджальнік грыпу меншай інтэнсіўнасці. Сёлета ўздым захворванняў, на думку А.Маштакова, можа прадоўжыцца эпідэмію на паўтара-два тыдні.

*БелаПАН*

## Дзень беларуска-балгарскай памяці

**Учора на Ваенных могілках Мінска адбылася ўрачыста-жалобная цырымонія ўскладання кветак да магілаў воінаў, што палеглі ў руска-турэцкай вайне 1877—1878 гадоў.**

Як паведаміла адказны сакратар Таварыства дружбы «Беларусь—Балгарыя» Ніна Іванова, гэтае ўскладанне кветак праводзіцца ў рамках Дзён Рэспублікі Балгарыі і ў гонар 120-годдзя яе вызвалення ад асманскага нашэсця. У цырымоніі бралі ўдзел Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Рэспублікі Балгарыя ў Беларусі Марка Ганчаў, прадстаўнікі балгарскага зямляцтва ў Мінску, старшыня Таварыства дружбы «Беларусь—Балгарыя» прафесар Генадзь Цыхун, іншыя афіцыйныя асобы.

У царкве Аляксандра Неўскага было адслужанае спецыяльнае набажэнства ў памяць аб ахвярах. Як вядома, у баях руска-турэцкай вайны бралі ўдзел і воіны-беларусы, у тым ліку салдаты і афіцэры 119-га пяхотнага і Магілёўскага палкоў. Тых, хто пасля памёр ад ран у мінскім шпіталі, з пашанай пахавалі на Ваенных могілках. Напярэдадні нацыянальнага свята Балгарыі — Дня вызвалення — на Цэнтральнай плошчы Сафіі адбываецца ўрачыстая сімвалічная паверка і гучаць імёны ўсіх палеглых пры вызваленні Балгарыі салдатаў, у тым ліку і імёны воінаў-ураджэнцаў Беларусі.

*БелаПАН*

## Дзеці без капейкі

**Да 10 тысячаў выканаўчых лістоў па аліментах, што мёртвым грузам ляжаць у бухгалтэрыях установаў і прадпрыемстваў Гомеля, летась дабавіліся яшчэ 3 тысячы.**

Такім чынам, 13 тысячаў гомельскіх мужчынаў павінны выплачваць штомесяц ад 25% да паловы заробку на ўтрыманне сваіх дзяцей і былых жонак. Аднак не ўсе гэта робяць. Больш за сотню мужыкоў-аліментшчыкаў проста хаваюцца і знаходзяцца ў вышуку. Між тым, ухіленне ад выплаты аліментаў падпадае пад артыкул 120 КК РБ і прадугледжвае пакаранне да двух гадоў пазбаўлення волі. Дарэчы, напрыклад, у Рэчыцы летась да крымінальнай адказнасці былі прыцягнутыя 33 чалавекі, і 22 з іх былі пакараныя пазбаўленнем волі. Грошай іхнія дзеці ад гэтага больш не атрымалі...

**Алена НЕСЫН**

# У калгасах бяда: вясна пачынаецца

**Каля 80% тэхнікі ў калгасах і саўгасах Магілёўскай вобласці патрабуюць не касметычнага, а капітальнага рамонту альбо зняцця з эксплуатацыі.**

Як паведамілі нашаму карэспандэнту ў Магілёўскім абласным упраўленні сельскай гаспадаркі, для падрыхтоўкі тэхнікі да веснавых работ патрабуецца больш за 1 трыльён рублёў, але грошай няма. Шматлікія праверкі паказалі: ва ўсіх раёнах вобласці можна ўбачыць камбайны ці трактары, што ржавеюць пад дажджом і снегам без рамонту. Напрыклад, у калгасах «Бальшавік», «Чырвоны ўдарнік», «Шлях Ільіча» тэхніку ўвогуле не рамантавалі з мінулага года.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**



*І такіх калгасных двароў — сотні.*

## Чаму ў крамах няма згушчонкі?

**Рагачоўскі малочнакансервавы завод заключыў дагаворы з узбекскімі фірмамі на бесперапынную адгрузку малочных кансерваў.**

Зацікавіліся ўзбекі і іншымі вырабамі завода. Супрацоўніцтва з азіятамі распачалося летась, калі яны закупілі ў Рагачове за валюту 130 тысячаў бляшанак малочных кансерваў. Але гэта была разавая здзелка, а цяпер справа пастаўленая на канвеер.

Між тым, малочных кансерваў у гомельскіх крамах знайсці цяжка, а міліцыянты вылоўліваюць на мяжы, пасля суды судзяць грамадзянаў, якія вывозяць у Расію на продаж дзесяткак-другі тых самых рагачоўскіх згушчонак. Дзе ж логіка?

**С.Д.**

*ЗДАРОЎЕ*

## СНІД яшчэ можна спыніць

**Беларускі Цэнтр прафілактыкі СНІДу звярнуўся з адкрытым лістом да грамадскасці і, перш за ўсё, — да бацькоў.**

Да такіх спецыфічных формаў прафілактычнай работы Цэнтр звярнуўся ў сувязі з імклівым ростам у нашай краіне колькасці носьбітаў ВІЧ-інфекцыі сярод моладзі. З першым падобным лістом спецыялісты Беларускага цэнтра прафілактыкі СНІДу, міністэрстваў аховы здароўя і адукацыі звярталіся ў 1996 годзе, калі з'явіліся першыя прыкметы рэзкага пагаршэння сітуацыі.

Як адзначаецца ў лісце, злоўжыванне наркатычнымі сродкамі і псіхатропнымі рэчывамі набывае маштабны характар. Прычым у фізічную і псіхічную залежнасць ад наркотыкаў трапляюць пераважна дзеці, падлеткі і моладзь. Як падкрэсліваюць спецыялісты, далейшае распаўсюджванне ВІЧ-інфекцыі сярод наркаманаў, бязладныя сексуальныя стасункі многіх дарослых, раннія полавыя кантакты падлеткаў пры нізкім узроўні санітарна-гігіенічных ведаў і агульнай культуры могуць прывесці да непапраўных наступстваў. Пагрозу ўяўляе не толькі далейшы рост венерычных захворванняў, непажаданай падлеткавай цяжарнасці. Існуе высокая рызыка заражэння СНІДам яшчэ ненароджаных дзяцей, і ў гэтым выпадку ўвесь цяжар адказнасці кладзецца на дарослых, якія ігнаруюць, не хочуць разумець усю сур'ёзнасць праблемы СНІДу.

Спецыялісты Цэнтра прафілактыкі СНІДу заклікаюць бацькоў не адварочвацца ад праблемаў сваіх дзяцей. Аб'ектыўна і заканамерна, што раней ці пазней малады чалавек набывае сексуальны досвед, пачынае ўжываць алкаголь. Але абавязак бацькоў — зрабіць усё, каб дзеці былі да гэтага падрыхтаваныя ў плане агульнай культуры, атрымалі неабходныя санітарна-гігіенічныя веды.

*«Бяду, што набліжаецца, —* адзначаецца ў лісце, *— яшчэ можна спыніць. Вашае разуменне і такт, добразычлівасць і шчырасць, асабісты прыклад дапамогуць нашым дзецям выбраць правільныя арыенціры, разабрацца ў складаных жыццёвых сітуацыях і іх наступствах, навучаць адказным адносінам да сябе і сваіх учынкаў».*

На жаль, СНІД — хвароба маладых. Штодзённа ў свеце 1.000 дзяцей заражаюцца ВІЧ-інфекцыяй. Па звестках экспертаў праграмы ААН/СНІД, у свеце налічваецца каля 1 мільёна дзяцей да 15 гадоў, заражаных вірусам імунадэфіцыту. У Беларусі жывуць 18 дзяцей — носьбітаў ВІЧ-інфекцыі. У трох з іх — апошняя стадыя СНІДу.

*БелаПАН*

*КРЫМІНАЛ*

## Злачынцу забілі на месцы

**У Магілёве падчас затрымання міліцыяй быў забіты 23-гадовы беспрацоўны.**

Злачынца ўзламаў легкавы аўтамабіль (па звестках праваахоўных органаў, гэта была ўжо 9-я абрабаваная ім машына). Калі міліцэйскі нарад паспрабаваў яго затрымаць, злодзей накінуўся на іх з металічнай палкай. Міліцыянт быў вымушаны адкрыць агонь.

Як высветлілася, забіты чатыры месяцы таму выйшаў з калоніі, дзе сядзеў за крадзеж.

**Іван ЗАСАДА**

## Шукалі злодзея, знайшлі наркотыкі

*Чарговая партыя наркотыкаў канфіскаваная ў Магілёўскай вобласці*

Увогуле ж на Магілёўшчыне, згодна з крымінальнай статыстыкай, наркотыкі знаходзяць кожныя два-тры дні. Днямі партыя марыхуаны вагой больш за 300 грамаў сканфіскаваная ў жыхара Слаўгарадскага раёна.

Міліцыя зацікавілася гэтым чалавекам па іншай прычыне. Пракуратура дала санкцыю на вобыск у сувязі з падазрэннем у крадзяжы. Наркотыкі былі знойдзеныя разам з выкрадзенымі рэчамі. Некалькі гадоў таму затрыманы прыехаў на Магілёўшчыну з Сярэдняй Азіі — рэгіёна, адкуль паступаюць асноўныя партыі наркотыкаў у краіны СНД. Там затрыманы злачынца быў неадназарова судзімы.

З пачатку 1998 года гэта ўжо 30-ты выпадак канфіскацыі наркотыкаў у Магілёўскай вобласці. Дзве трэці такіх фактаў прыпадае на Бабруйск.

**Аляксандр АЛЕКСАНДРОВІЧ**





*СПОРТ*

## Каспараў аб'яўляе Ілюмжынаву шах

Як вядома, 9 студзеня гэтага года 46-гадовы расійскі гросмайстар Анатоль Карпаў, выйграўшы дзве дадатковыя 25-хвілінныя партыі ў індзійца Вішванатана Ананда, захаваў тытул чэмпіёна свету *FIDE* (Міжнародная шахматная федэрацыя) і атрымаў 1 млн. 373 тыс. долараў. Сам чэмпіянат, у якім удзельнічала каля 100 шахматыстаў, быў задуманы прэзідэнтам *FIDE* і Калмыкіі Кірсанам Ілюмжынавым як прэзідэнцкі і аб'яднальны. Два найбольш знакамітыя шахматысты сучаснасці — Гары Каспараў і Анатоль Карпаў — былі запрошаныя гуляць адразу ў паўфінале. Аднак Каспараў, які парваў з *FIDE* яшчэ пяць гадоў таму, адмовіўся гуляць у чэмпіянаце Ілюмжынава, таму што, на яго думку, патагонная сістэма мікраматчаў несправядлівая і прадугледжвае вельмі вялікі працэнт выпадковасцяў. Акрамя таго, Каспараў заначыў, што 5-мільённадоларавы прызавы фонд — не што іншае, як адмыванне альбо нафта-, альбо ваенна-прамысловых даходаў. Уладальнік другога рэйтынгу (першы — у Каспарава) у шахматным свеце 21-гадовы Уладзімір Крамнік таксама праігнараваў турнір Ілюмжынава, лічачы несправядлівым допушчэнне Карпава пасля адказу Каспарава адразу ў фінал.

Такім чынам, склалася дзіўная сітуацыя з двума чэмпіёнамі свету. Адзін з іх — Карпаў — абараніў тытул чэмпіёна *FIDE*, хаця і па вельмі недасканалай накаўт-сістэме, але мае толькі пяты рэйтынг у сусветнай іерархіі. На няданім турніры ў Вейк-ан-Зее (Галандыя) ён наогул падзяліў 6—10 месцы.

Другі чэмпіён — Каспараў — завяваў сваю карону ў рамках створанай ім жа ў супрацьвагу *FIDE* Прафесійнай шахматнай асацыяцыі (ПША), але амаль тры гады яе не адстойваў.

На днях вядомы шахматны мецэнат з Іспаніі і сябар Каспарава Луіс Рэнтэра абвясціў аб стварэнні замест ПША Сусветнага шахматнага савета, які плануе правесці ў траўні адборачны матч з 4 на першынство свету 10 партый паміж Крамнікам і Анандам, другім і трэцім ігракамі па шахматным рэйтынгу. А яго пераможца ў кастрычніку разыграе карону і 2 мільёны долараў у паядынку з 18 партый ужо з Гары Каспаравым. Дарэчы, прызавыя грошы гарантаваны Андалусіяй, адной з абласцей Іспаніі. Пры гэтым абгаворана, што калі хтосьці згуляе ў супертурніры, які ў гэтыя дні праходзіць у іспанскім Лінарэсе (у ім прымаюць удзел 7 з 8 мацнейшых ігракоў свету), лепш за Каспарава, Крамніка і Ананда, то ён заменіць апошняга ў адборачным матчы з Крамнікам.

Гэта, канечне, малаверагодна, але пакуль усё менавіта так і адбываецца: лідзіруе ў Лінарэсе яшчэ нядаўна латвійскі, а цяпер іспанскі гросмайстар Аляксей Шыраў.

Кропка ў барацьбе Каспарава і Ілюмжынава не пастаўлена. Двойчы прэзідэнт (зусім як у нас) збіраецца правесці ў снежні ў Лас-Вегасе (ЗША) свой другі чэмпіянат і зноў з удзелам 100 гросмайстраў, і зноў па накаўт-сістэме. Там падкормліваюць сотню, тут — эліту...

Чыя возьме?

**Барыс ТАСМАН**

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Падпісны індэкс 63312 E-mail: edit@svaboda.minsk.by Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996. Юрыдычны адрас рэдакцыі: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173.
Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» ВПП імя Я.Коласа (220073 г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 1159 Нумар падпісаны ў друк 03.03.98 (15:00) Наклад — 15.555